

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№18 (327) СТУДЗЕНЬ 2022 ГОД


РЫНАК ПРАЦЫ

## КІРМАШ ВАКАНСІЙ: ПРЭТЭНДЭНТАЎ МАЛА

**На днях у Шуміліне ва ўпраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама адбыўся кірмаш вакансій. Аднак у ходзе мерапрыемства высветлілася, што на 119 працоўных месцаў знайшлося усяго 6 прэтэндэнтаў. Гэта не стала нечаканасцю, бо падобная з'ява паўтараецца на кожным кірмашы – такія асаблівасці мясцовага рынку працы. Чаму так склалася?**

Як вядома, па даўняй традыцыі, болей за ўсіх назіраецца дэфіцыт кадраў у сельскай гаспадарцы і медыцыне. Паводле дадзеных рэспубліканскай службы занятасці, на сенняшні дзень на сяле патрабуецца 26 спецыялістаў і рабочых, а ў райбальніцу запрашаюць 6 дактароў, 5 фельчараў, 1 акушэрку, 1 медыцынская сястру і 1 санітарку. У шумілінскіх аптэках не хапае 5 правізараў. Мясцовым сельгаспадаркам не хапае ветурачоў, заатэхнікаў, аператараў машыннага даення, жывелаводаў, загадчыкаў фермаў і майстэрні, а ў сельгаспрадпрыемства "Мішневічы" патрабуецца нават кіраўнік.

Між іншым, на мерапрыемства завіталі прадстаўнікі сельгасарганізацый, ПМК-70 і райбальніцы, якім патрэбны працоўныя кадры. Да прыкладу, ААТ «АграБаравінка» былі патрэбны заатэхнік, галоўны ветурач, брыгадзір на ферму, аператар машыннага даення, галоўны бухгалтар і галоўны інжынер. Адразу знайшоўся спецыяліст, які можа працаваць інжынерам па працаёмкіх працэсах, і яму прапанавалі неадкладна прыехаць у гаспадарку для гутаркі.

Праўда, наступную спадарыню, агранома па спецыяльнасці, работа па прафесіі ў СФГ «Раднік» не вельмі задавальняла, бо знаходзіцца далёкавата. Але затым яна згадзілася падумаць наконт пасады брыгадзіра на ферме ААТ «АграБаравінка». Дарэчы, цяпер у гаспадарцы маюцца свабодныя два дамы прысядзібнага тыпу, і кіраўніцтва гатова запрасіць сям'ю, якая ўладкуецца на прадпрыемства. У рэшце рэшт «АграБаравінка» прызначыла сустрэчу і жанчыне-бухгалтару.

Адзін жыхар Шуміліна, які доўгі час выязджаў за межы раёна на заробкі, прасіў падабраць яму любую рабочую спецыяльнасць і быў задаволены, калі спецыяліст па кадрах ПМК-70 запрасіла прыйсці на гутарку да дырэктара. Зараз на прадпрыемстве маюцца вакансіі муляра, тынкоўшчыка, цесляра.

Прадстаўніку аддзела кадраў райбальніцы ў гэты дзень не пашанцавала – ён падабраў сабе ніводнага работніка. Але ж на сёння таксама свабодныя ў медычнай сферы аж 19 вакансій, сярод якіх – лекары, загадчыкі ФАПаў, рабочыя, слесары-сантэхнікі, слесары-электрыкі. Дарэчы, Мікалаеўскай бальніцы тэрмінова патрабуецца повар.

На кірмаш звярнуліся шасцёра непрацуючых грамадзян раёна. А вакансій на сённяшні дзень у раёне 119. Разам з тым пераважная большасць з іх патрабуе пэўнай канкрэтнай прафесіі ці спецыяльнай адукацыі. Бадай што хранічана бракуе ветурачоў, аграномаў, заатэхнікаў, інжынераў, бухгалтараў, энергетыкаў, фармацэўтаў, правізараў, псіхолагаў, бібліятэкараў, педагогаў-арганізатараў.

Пакуль што не выключана магчымасць уладкавацца на некаторыя вакансіі і з сярэдняй адукацыяй. У Шумілінскім раёне патрэбны жывёлаводы, механізатары, вадзіцелі, зваршчыкі, слесары-сантэхнікі, аператары машыннага даення, токары, тынкоўшчыкі, вальшчыкі лесу і інш. Аднак людзі па нейкім прычынам упарта туды не ідуць. Чаму? Адказу на простае пытанне мясцовыя сацслужбы не маюць, ніякіх даследванняў не праводзіцца. Застаецца толькі гадаць, што тут не задавальняе людзей: заробкі, умовы працы, адсутнасць жылля, дэфіцыт абсталявання, або тэхналогіі вытворчасці безнадзейна састарэлі…

**Алесь Шумскі**



АГРАПРАМЫСЛОВАСЦЬ

## 500 ТОН ЯКАСНАЙ КАЎБАСЫ

**Новыя дасягненні аграпрамысловасці Шумілінцчыны. На сённяшні дзень участак варана-вэнджанай прадукцыі забойнага цэха ТАА «Віткопрадукт» выпускае за месяц 500 тон прадукцыі. Гэта вынік плённай працы немалому калектыву 75 чалавек цэха, якія рупяцца у дзве змены.**



Зараз адных толькі вараных каўбас у цэху выпускаюць больш за дваццаць відаў вышэйшага гатунку, першага і другога, а таксама бессартавых. Найбольш у спажыўцоў карыстаецца попытам «доктарская прэміум» «эстонская», «неженка», сасіскі «львяты з сырам». Таксама прыйшлася даспадобы пакупнікам каўбаса «мартадэла», якую ў Шуміліне сталі вырабляць адносна нядаўна.

Тут маецца і шэраг гатункаў варана-вэнджаных каўбас. Сярод іх можна адзначыць «бутэрбродную», «гурман», «паляўнічую новую». Яшчэ да новай вытворчасці можна аднесці рулеты і вяндліну. Цяпер карыстаюцца попытам рулеты: «святочны», «сталічны люкс», паспяхова прадаецца вяндліна вараная рубленая «нежность», «італьянская курына».

Па ўсяму відаць, што кіраўніцтва прадпрыемства дбае аб сучаснай прадукцыі, таму былі распрацаваны рэцэпты для паўфабрыкатаў хуткага прыгатавання. Такія вырабы, як гуляш, стэйк, шашлык, каўбаскі з рознымі спецыямі і марынадамі таксама знайшлі сваіх пакупнікоў.

Уся прадукцыя таксама прадаецца па ўсёй Беларусі ў 69 фірменных магазінах „Мясная лаўка" у Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай, Гомельскай абласцях і ў Мінску, два фірменныя магазіны ёсць і ў нашым райцэнтры. Акрамя гэтага, шумілінскія стэйкі, каўбаскі і рулеты ідуць і на экспарт, у Расійскую Федэрацыю.

**Ян Вайтовіч**

ІНАВАЦЫІ

## НОВЫЯ МАГЧЫМАСЦІ ВЯСКОЎЦАЎ

**Мадэрнізацыя электрасетак у Шумілінскім раёне адкрывае магчымасць падключэння электраацяплення ў сельскай мясцовасці.**

Сёлета 130 жыхароў вёсак Шумілінскага раёна выказалі намер правесці электраацяпленне, у 100 грамадзян такая магчымасць існуе. Чаму электраацяпленне немагчыма ўсталяваць не ва ўсіх жыхароў?

Уся справа палягае ў тым, што электрычныя лініі былі пабудаваны яшчэ ў савецкія часы. Тады прадугледжвалася 3,5 кВт на адзін жылы дом. А пры ацяпленні электрычнасцю трэба дадаваць па 0,6-0,8 кВт на кожныя 10 квадратных метраў. У сувязі з гэтым «Віцебскэнерга» праводзіць рэканструкцыю электрасетак, у тым ліку і ў Шумілінскім раёне. Асабліва актыўна ідзе рэканструкцыя на сяле.

Дарэчы, сёлета Шумілінскі РЭС рэканструяваў 3,5 км электрычных ліній у вёсцы Добрына. Падчас работ была ўстаноўлена новая трансфарматарная падстанцыя, заменена старая. Работы вяліся за кошт уласных сродкаў «Віцебскэнерга».

Паводле начальніка вытворча-тэхнічнай групы РЭС Ігара Лапавухава, жыхары Добрына пачалі актыўна пераходзіць на сучасны абагрэў жылля. На пачатак каляндарнай зімы 11 гаспадароў ужо карысталіся электраацяпленнем. Яшчэ пяць вяскоўцаў атрымалі тэхнічныя ўмовы.

Зараз завяршаецца рэканструкцыя электраліній у вёсцы Непароты, якая распачалася ў верасні. Усяго тут заменена 2,2 км паветраных ліній, рэканструявана адна трансфарматарная падстанцыя, пабудавана другая. У РЭС ёсць запыты ад 25 жыхароў вёскі Непароты, якія жадаюць устанавіць электраацяпленне. Цяпер справа за імі.

У кастрычніку работы па замене паветраных ліній пачаліся ў Мішневічах. Да канца года неабходна замяніць 2,7 км ліній электраперадач. Гэта дазволіць значна павялічыць прапускныя магчымасці элекрасетак. У тым, што і тут знойдуцца жадаючыя перавесці жыллё на электраацяпленне, можна не сумнявацца.

Як адзначыў Уладзімір Волкаў, зараз рыхтуецца праектная дакументацыя на рэканструкцыю электрасетак у вёсцы Гародна. Плануецца, што ў наступным годзе рэканструкцыя таксама пройдзе ў вёсках Сіроціна і Грабніца.

Алгарытм дзеянняў для жадаючых ацяпляць дом электрычнасцю ад Ігара Лапавухава:

– Электрыфікацыя жылога дома – адзін з відаў яго рэканструкцыі. Гэта адміністрацыйная працэдура, а значыць, неабходна наяўнасць пэўнай дакументацыі.

1. Трэба атрымаць узгадненне раёна электрасетак аб тэхнічнай магчымасці правядзення работ.
2. Пасля атрымання станоўчага адказу з РЭС трэба падаць заяву ў службу «адно акно» райвыканкама на выдачу дазволу на рэканструкцыю жылога дома.
3. Пасля атрымання дазволу неабходна знайсці падрадчыка, які зробіць праект рэканструкцыі і рэалізуе яго.
4. Калі рэканструкцыя зроблена, спецыялісты "Энергагазнагляду» правядуць агляд новага электраабсталявання і выдадуць дазвол на падключэнне жылога дома да электрычных сетак.

**Ян Вайтовіч**

КУЛЬТУРА

# У ЛІДЭРАХ ДЗІЦЯЧАГА ВАКАЛЬНАГА КОНКУРСУ

**Прадстаўніца з Шумілінскага раёна выбрана ў ліку пецярых удзельнікаў другога этапа адбору на дзіцячы вакальны конкурс.**

Нядаўна ў абласным горадзе Віцебску прайшоў абласны адбор на XXI Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск», які адбудзецца ў ліпені 2023 года ў рамках XXXII Міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».

У сталіцы форуму журы, якое ўзначаліў старшыня цыклавой камісіі Дырыжыраванне" Віцебс-кага дзяржаўнага музычнага каледжа імя І.І. Салярцінскага Аляксандр Суvotraў, праслухала 24 вакаліста ва ўзросце ад 8 да 13 гадоў, сярод якіх восем прадстаўнікоў абласнога цэнтра, астатнія канкурсанты з рэгіёнаў: Глыбокае, Гарадок, Докшыцы, Новалукомль, Дуброўна, Віцебскі, Міёрскі, Аршанскі, Шумілінскі раёны.

Па ўмовах дзіцячага музычнага конкурсу юныя артысты павінны былі выканаць па дзве эстрадныя песні: адна – беларускага аўтара на беларускай мове, другая – па выбары ўдзельніка, якая найбольш яскрава адлюстроўвае яго выканальніцкае майстэрства і артыстычныя здольнасці. Аднак некаторыя ўсё ж выбралі народныя песні. Ці перашкодзіла гэта прайсці ў другі этап адбору ці наадварот дапамагло?

Перад тым, як агучыць прозвішчы пяці чалавек, якія пройдуць у другі этап адборачнага конкурсу, старшыня журы адзначыў, што ў хлопцаў розны ўзровень падрыхтоўкі, былі і вакальныя промахі, якія паўплывалі на ўспрыманне, часта чулі фарсіроўку гуку – рэзкае гучанне. "Трэба працаваць над дыханнем і вучыць асэнсавана даносіць тэкст, займацца паэзіяй, культурай гаворкі, сцэнрухам," параіў педагогам Аляксандр Суvoraў і абвясціў імёны шчаслівчыкаў.

У другі адборачны тур прайшлі 10-гадовая віцьблянка Васіліна Сушко, прадстаўніца Міёрскага раёна Валерыя Паўлоўская (12 гадоў), Ірына Шатровіч з гарпасёлка Копысь Аршанскага раёна, 8-гадовая Ілона Аўчыннік з Новалукомля, Вікторыя Ляўшова з гарпасёлка Обаль Шумілінскага раёна.

**Алесь Прыбярэжны**

АХОВА ЗДАРОЎЯ

# АМБУЛАТОРЫЯ ТОЛЬКІ ПЕРАЕДЗЕ

**Чаму Светласельская амбулаторыя пераязджае ў будынак паліклінікі Шумілінскай ЦРБ? Адказ галоўнага ўрача раёна.**

Сярод мясцовага люду папаўзлі чуткі, што нібыта зачыняюць Светласельскую амбулаторыю ўрача агульнай практыкі.

З гэтай нагоды афіцыйную інфармацыю была вымушана прадставіць галоўны ўрач Шумілінскай цэнтральнай раённай бальніцы Святлана Лінкевіч, якая адразу адзначыла: "Светласельская амбулаторыя не зачыняецца. Для паляпшэння якасці і даступнасці медыцынскай дапамогі, правядзення поўнага спектра лабараторных і інструментальных метадаў абследавання, пры неабходнасці – своечасовага кансультавання вузкімі спецыялістамі, яна пераносіцца".

Надалей абмяркоўваецца пытанне, каб з 1 студзеня 2023 года перанесці Светласельскую амбулаторыю на тэрыторыю паліклінікі раённай бальніцы. Пры гэтым будзе захавана каманда ўрача агульнай практыкі ў тым жа складзе і будзе захаваны прынцып тэрытарыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Пытанне пра перанос амбулаторыі наспела даўно. Рашэнне было прынята ў сувязі з масавай колькасцю зваротаў ад жыхароў замацаванага ўчастка (асабліва аддаленых вёсак), звязаных з нязручнасцямі, па-першае, дабірацца да амбулаторыі і, па-другое, у аказанні ім медыцынскай дапамогі. У Светласельскай амбулаторыі быў магчымы толькі амбулаторны прыём, таму нязручнасці выклікалі таксама і тым, што пасля наведвання амбулаторыі пацыентам даводзіцца дабірацца на інструментальныя (УЗІ, рэнтген, агляд вузкімі спецыялістамі) і лабараторныя абследаванні ў паліклініку цэнтральнай раённай бальніцы, а потым вяртацца за кансультацыяй у амбулаторыю.

Як падкрэсліла галоўны ўрач, будзе захаваны выезд урача на абслугоўванне на даму, як і было раней, захаваецца і дзённы стацыянар. Забеспячэннем лекамі жыхароў сяла будзе займацца памочнік урача.

**М. Амбросаў**

КАМІТЭТ ДЗЯРЖКАНТРОЛЯ

# ПАРУШАЛЬНІКІ ПА ВОБЛАСЦІ ПАКАРАНЫЯ

**КДК выявіў на Віцебшчыне звыш дзясятка фактаў парушэння дзяржзакупак, ёсць парушэнні і ў Шумілінскім раёне.**

Дзякуючы папераджальным кантрольным мерапрыемствам Камітэта дзяржаўнага кантролю па Віцебскай вобласці зэканомлены немалыя грошы. Вінаватыя ў парушэннях пакараныя.

Прычына – у невыкананні патрабаванняў заканадаўства, дзе дакладна прапісана працэдура ажыццяўлення дзяржзакупак тавараў, работ і паслуг:

Да прыкладу, адна з арганізацый Шумілінскага раёна запланавала знос цяпліцы. Але ў выніку атрымалася, што арыентыровачны кошт вызначылі ў некалькі разоў вышэйшым за рэальны. Пасля ўмяшання КДК работы выкананы, але абышліся ў разы танней.

Занадта завышаным аказаўся і кошт музычных інструментаў, якія збіраліся закупляць установы культуры вобласці. Забыліся аб эканоміі і асобныя ўстановы адукацыі на папярэднім этапе закупак прадуктаў харчавання.

Толькі ў кастрычніку-лістападзе гэтага года ўстаноўлены парушэнні пры правядзенні шасцю суб'ектамі Бешанковіцкага, Лёзненскага, Глыбоцкага, Віцебскага раёнаў і Віцебска працэдур дзяржзакупак. Дзесяці не ўказвалі канкрэтны від тавару і вытворцы, якi набываўся, дзесяці адсутнічаў праект дамовы, а таксама іншыя абавязковыя звесткі. «Забывалі» складаць дакладкі аб правядзенні працэдуры закупкі з адной крыніцы, не забяспечвалі належнае захоўванне дакументаў, увогуле набывалі тавары без правядзення працэдур дзяржзакупак.

**М. Амбросаў**

ЗДАРЭННІ

# АВАРЫЯ ПАД ХАЦІЛАВАМ

**Смяротнае ДТЗ у Шумілінскім раёне: загінуў кіроўца.**




Раніцай 8 снежня паблізу вёскі Хацілава Шумілінскага раёна лоб у лоб сутыкнуліся дзве іншамаркі, паведамілі ў ДАІ УУС Віцебскага аблвыканкама.

49-гадовы мінчанін за рулём Chrysler не справіўся з кіраваннем і выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе адбылося сутыкненне з Mazda. Вадзіцель апошняга аўтамабіля загінуў.

У складаных умовах надвор'я ўдзельнікам дарожнага руху неабходна быць вельмі ўважлівымі, а таксама трэба ўлічваць, што стан праезнай часткі на працягу маршруту можа рэзка мяняцца. Не варта здзяйсняць рызыкоўных манеўраў, рэзкіх тармажэнняў і перастраенняў.

**Сяржук Крупскі па зводках УУС**

# ПАЖАР ДОМА

**Уначы ў вёсцы Мазурына загарэўся прыватны дом, адзін чалавек загінуў.**

3 снежня ў 2-47 ратавальнікам паступіла паведамленне аб пажары дома ў вёсцы Мазурына Шумілінскага раёна.

Пасля прыбыцця да месца выкліку падраздзяленняў МНС назіралася адкрытае гарэнне даху дома, адбылося яго частковае абвальванне разам са столевым перакрыццем. Драўляная хата ўяўляла сабой жыллё на дзве кватэры, у першай ніхто не пражываў. У другой пражываў мужчына, 1959 года нараджэння, як пазней расказалі суседзі, ён любіў злоўжыць спіртным.

Падчас тушэння пажару работнікамі МНС на падлозе ў пакоі быў знойдзены яго труп.

У выніку пажару ў доме пашкоджаны дах, столевае перакрыцце, маёмасць і сцены. Прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні загінуўшым.

**Сяржук Крупскі па зводках МНС**

КРЫМІНАЛ

# БУТЭЛЬКА ПАД КУРТКАЙ

**Учыніў грабеж у магазіне – цяга да спіртнога аказалася мацней сумлення.**

Апошнія два гады 28-гадовы грамадзянін В. як сам і не адмаўляе, занадта моцна пасябраваў з «зялёным змеем». Мужчына ўжо двойчы прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за распіццё спіртных напіткаў у грамадскіх месцах.

Аднак галоўную прычыну такіх асацыяльных паводзін ён прызнаваць не можа, ды і не хоча. Да таго ж распавядае, што і ў самога і сям'і ўсё добра, яшчэ і двое дзетак падрастаюць.

Калі ў чарговы раз прыехаўшы з заробкаў у Расіі, грамадзянін В. пачаў з размахам адзначаць сваё прыбыццё на радзіму. Аднойчы зайшоў у бліжэйшую краму за бутэлькай гарэлкі. Але на касе некачана высветлілася, што на банкаўскай картачцы зусім скончыліся грошы. Замест таго, каб спакойна пайсці дадому, мужчына раптам вярнуўся ў гандлёвую залу, пакруціўся там сярод паліца і… нахабна засунуў бутэльку ў кішэню пад курткай. Прычым рабіў гэта пад пільным позіркам касіра. Плацяць адмовіўся, таму касір выклікала міліцыю.

Па факце грабяжу была ўзбуджана крымінальная справа.

Як высветлілася на першым допыце, грамадзянін В. прызнаўся, што на злачынства пайшоў свядома. Аднак наіўна спадзяваўся, што за падобныя ўчынкі можкабыць толькі адміністрацыйнае пакаранне за крадзеж. Толькі сутнасць справа яшчэ ў тым, што тут маецца важная акалічнасць – краў бутэльку ў краме мужчына ў адкрытую, пры сведках. А гэта ўжо цягне на артыкул за грабеж і крымінальную справу, санкцыі па якой прадугледжваюць аж да чатырох год пазбаўлення волі.

**Сяржук Крупскі па зводках РАУС**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ШТО ЧАКАЕ БЕЛАРУСЬ НА СУСВЕТНЫМ РЫНКУ?

**З дапамогай Google я паспрабаваў разабрацца са спісам краін з найбольшай колькасцю нобелеўскіх лаўрэатаў. І раптам сутыкнуўся з нечаканай праблемай, якую можна перадаць асучасненым лацінскім афарызмам: «Колькі сайтаў, столькі і меркаванняў». Таму не буду прэтэндаваць на ісціну ў апошняй інстанцыі — спынюся на спісе паводле Вікіпедыі.**



Пяцёрку краін-лідараў, натуральна, узначальваюць ЗША — 403 лаўрэаты. Далей ідуць Вялікабрытанія — 137, Германія — 113, Францыя — 72 і Швецыя — 33.

Дуэт Расія/СССР адстаў ад Швецыі на аднаго кандыдата. Але накont персанальнага складу тут ёсць пытанні. У прыватнасці, у спісе значыцца хімік Ілья Прыгожын, які нарадзіўся ў Маскве ў 1917 годзе і эміграваў з Савецкай Расіі ва ўзросце чатырох гадоў. Аналагічная гісторыя — з эканамістам Сайманам Кузняцом, які 63 гады працаваў у ЗША.

А да якой краіны аднесці фізіка Пятра Капіцу? Ніхто не спрачаецца: з'яву звышцякучасці вадкага гелію ён адкрыў у СССР, але як навуковец сусветнага ўзроўню сфарміраваўся ў Кавендышскай лабараторыі пад кіраўніцтвам ураджэнца Новай Зеландыі, брытанскага (!) фізіка Эрнэста Рэзэрфорда, дзе Капіца працаваў з 1921 па 1934 гады.

Але што мы атрымаем у сухім астатку, калі з падобнымі пытаннямі звернемся да спіса амерыканскіх Нобелеўскіх лаўрэатаў? Тройчы мае рацыю мой апанент, які на інфармацыю наконт лідарства ЗША па колькасці міжнародных заявак на выдачу патэнтаў па Дамове аб патэнтнай каапераціі (Patent Cooperation Treaty — PCT) дае наступнае тлумачэнне:

«Вы да справаздач Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці дадайце біяграфіі гэтых інтэлектуалаў. Большасць — з трэціх краін, апынуліся ў ЗША ў пагоні за грашыма і спрыяльнымі ўмовамі навуковай дзейнасці.

Сапраўдныя, узгадаваныя маладыя перспектыўныя даследчыкі з'яўляюцца на штогадовых алімпіядах па ўсіх навуках. Сярод удзельнікаў і пераможцаў там у лідарах — Расія і Кітай. Як і агенты карпарацый ЗША, якія адразу ж скупляюць таленты. Гэта значыць, грошы робяць грошы».

Вось такі ён, амерыканскі імперыялізм, у якім грошы робяць грошы. У якасці доказу гэтай філіпікі паказваю фатаграфію, якую я ў два клікі знайшоў у інтэрнэце:

**Незвычайны заклад**

Што можна запярэчыць майму апаненту, дый ці трэба з ім наогул спрачацца? Адзінае, што я здольны параіць, гэта не проста чытаць, а пачытваць на ноч тэксты выступленняў адзінага беларускага палітыка (АП): «Сёння, хочам мы гэтага ці не, наша краіна існуе ва ўмовах глабальнага рынку, адкрытай эканомікі, а таму законы жорсткай канкурэнцыі распаўсюджваюцца і на нас».

Глабальны рынак ні ў нафце, ні ў металах, ні ў харчаванні сур'ёзных праблем не адчувае. На бягучае павышэнне попыту рынак адказвае павышэннем прапановы, натуральна, з некаторай затрымкай, а на доўгатэрміновыя трэнды — інавацыямі.

30 гадоў таму амерыканскі эканаміст Джуліян Сайман прапанаваў біёлагу Полю Эльрыху выбраць любы від сыравіны — і пайсці ў заклад, што кошты на гэтую сыравіну праз 10 гадоў знізяцца. Эльрых абраў пяць металаў: хром, медзь, нікель, волава і вальфрам.

Заклад выйграў Сайман. Цэны на ўсе без выключэння металы за 10 гадоў упалі. Прычым на хром і волава ўпалі і ў намінальным выражэнні — гэта значыць, без уліку інфляцыі. На сітуацыю не паўплываў і самы высокі за ўсю гісторыю чалавецтва прырост насельніцтва: плюс 800 мільёнаў чалавек.

Чаму прайграў Эльрых? Ён не ўлічыў уплыву інавацый на попыт. Вытворцы інструментаў карбід вальфраму замянілі на вокіс алюмінію (корунд), медзь у дратах — на алюміній, а ў сістэмах сувязі медзь змяніла шкловалакно (сыравіна — звычайны пясок). Пласт волава на бляшанках для кансерваў стаў танчэйшым у дзясяткі разоў: іх абарону даручылі сінтэтычным лакам. Хромавыя і нікелевыя пакрыцці сталі шчыльнейшымі — і, такім чынам, танчэйшымі.

**Хто атрымае верх у Расіі праз дзесяць гадоў?**

Лепшага прыкладу перавагі эканомікі ведаў над сваімі папярэднiцамі, мабыць, і не прыдумаць. Да стандартнага квартэта фактараў вытворчасці — зямля, капітал, праца і прадпрымальніцкая актыўнасць — яна дадала веды і чалавечы капітал.

Натуральна, ва ўмовах глабальнага рынку і адкрытай эканомікі законы жорсткай канкурэнцыі распаўсюджваюцца і на носьбітаў ведаў, што значна ўзмацняе дыферэнцыяцыю краін па ўзроўні даходаў. Таму не варта здзіўляцца, што ў XXI стагоддзі, згодна з англійскім статыстыкам Ангусам Мэдысанам, разрыў паміж лідарамі і лузерамі стаў трохзначным, у той час як у пачатку XIX стагоддзя ён быў чатырохразовым.

Паводле попыту на адукаваных людзей сёння можна смела меркаваць пра перспектывы нацыянальных эканомік. У прыватнасці, для разумення перспектыў «нашай Расіі» прапаную наступнае выказванне рэктара Расійскай акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы Уладзіміра Мау: «У нас дзеці з багатых сем'яў хочуць працаваць у дзяржкарпарацыях, дзеці з бедных — у сілавых структурах. Праз дзесяць гадоў яны сустрэнуцца. І зразумела, хто атрымае верх».

Шанцы на тое, што краіны зоймуць годнае месца пад сонцам, можна ацэньваць і па розніцы паміж іміграцыяй і эміграцыяй адукаваных людзей.

У сувязі з гэтым варта звярнуць увагу на абмеркаванне ў Бундэстагу рэформы закона аб грамадзянстве, якая прадугледжвае скарачэнне тэрміну пражывання ў Германіі, неабходнага для атрымання грамадзянства, з васьмі да пяці гадоў, а пры наяўнасці поспехаў у прафесійнай кар'еры — да трох.

Прыняцце рэформы будзе азначаць адмову ад уяўлення пра нямецкую нацыю як культурную супольнасць. І гэта — рэвалюцыя, таму што рэформа прапануе трактаваць нямецкую культуру як прыхільную да пэўных палітычных каштоўнасцей, а не застылую ў наборы этнічных традыцый.

Заканадаўцы вымушаны лічыцца з рэальнасцю. А рэальнасць палягае ў тым, што сёння кожны чацвёрты жыхар Германіі мае міграцыйны бэкграўнд і ў бліжэйшыя гады з рынку працы сыдуць (і стануць атрымальнікамі пенсій) 7 мільёнаў работнікаў.

***

*Як на фоне сказанага вышэй глядзіцца беларуская мадэль развіцця, мяркую, нават тлумачыць не варта.*

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.online**

НОБЕЛЕЎСКАЯ ПРЭМІЯ

# «СОБЫТИЕ ДЛЯ БЕЛАРУСИ И ГЕРОИЧЕСКОЕ, И ТРАГИЧЕСКОЕ»

**Собирали реакцию на вручение Нобеля Алесю Беляцкому. Премию, которой удостоили белорусского политзаключенного правозащитника, получила его жена Наталья Пинчук.**



**Александр Фридман, политический обозреватель, историк:**

— Сегодняшнее вручение Нобелевской премии мира — событие для Беларуси и героическое, и трагическое.

Это международное признание Алеся Беляцкого и всех тех белорусов, которые уже почти 30 лет ведут борьбу за демократическую Беларусь. Это одновременно и трагедия Беляцкого, который находится в тюрьме и предстанет перед судом, и всех остальных политзаключенных, единственная вина которых заключается в желании жить в свободной и демократической европейской стране.

**Настасся Роўда, дырэктар выдання Н*ша Н*ва:**

— Сёння ў Осла адбылося ўручэнне Нобелеўскай прэміі міру нашаму зняволенаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму, украінскаму «Цэнтру грамадзянскіх свабод» і расейскай праваабарончай арганізацыі «Мемарыял».

Тры магутнейшыя прамовы прагучалі са сцэны. У беларускай — боль, у расейскай — сорам, ва ўкраінскай — моц.

Было шмат крытыкі ў бок Нобелеўскага камітэта адносна таго, як у час злачыннай вайны, развязанай Расеяй, можна даваць прэмію расейцам. За што даваць яе беларусам, якія так і не зрынулі Лукашэнку, а той стаў памагатым Пуціна.

Абурэнняў адносна таго, як зараз можна ўзяць і аб'яднаць адной прэміяй тры краіны, дзве з якіх адчайна прагнуць адарвацца ад трэцяй. Але адказ на паверхні: калі хоць у адной краіне на зямлі ўлады забываюцца на правы чалавека, на яго свабоды, гэта становіцца пагрозай для ўсяго свету.

**Зьміцер Дрозд, гісторык:**

— Выкажу сваё суб'ектыўнае меркаванне. Самым дастойным аўтарытэтным паважаным і сусветна вядомым беларусам сёння з'яўляецца Алесь Бяляцкі.

Сваёй працай, сваёй ахвярай ён больш чым заслужыў быць не толькі нацыянальным лідарам, але і прэзідэнтам Беларусі. Але бяда нават не ў тым, што ў Беларусі няма выбараў (гэта зараз так).

Бяда ў тым, што людзі ўзроўню Алеся Бяляцкага ніколі не імкнуцца да ўлады. Таму яна практычна заўсёды дастаецца куды менш дастойным асобам. У лепшым выпадку.

Але часта зусім нягодным таварышам у сілу сваіх асабістых, чалавечых якасцяў, а то і відавочных псіхалагічных праблем, няздольным валодаць любой — нават мінімальнай уладай.

Як упрасіць у будучай свабоднай Беларусі Алеся Бяляцкага вылучыць сваю кандыдатуру на будучых свабодных дэмакратычных выбарах?

Бо заўжды ёсць рызыка, што пасля таго, як усё гэтае скончыцца (а яно скончыцца), да ўлады палезуць да ўлады нягодныя людзі — новыя балбатуны ды краснабаі...

Але сёння ва ўсіх беларусаў свята! Гэта па-сапраўднаму гістарычная падзея! Выдатная Нобелеўская прамова, прачытаная Наталляй Пінчук выдатнай беларускай мовай.

**gazetaby.info**

УКРАІНА - ЗША

# АДЗІН МОМАНТ, ЯКІ РОБІЦЬ ВІЗІТ ЗЯЛЕНСКАГА Ў ЗША ГІСТАРЫЧНЫМ

**Украінскі палітолаг, дырэктар украінскага Інстытута сусветнай палітыкі Яўген Магда расказаў Филину, чаму сустрэча ў Вашынгтоне адбылася менавіта цяпер. Што будзе далей і чаго трэба чакаць.**



**— Уладзімір Зяленскі ўпершыню з моманту ўварвання Расіі выправіўся з замежным візітам. Чаму менавіта цяпер — з'явіліся спрыяльныя для гэтага ўмовы, альбо проста паўстала такая неабходнасць, калі немагчыма адкладваць?**

— Па-першае, час напярэдадні Раства — гэта найбольш спрыяльны момант для таго, каб прасіць дапамогі. Калядная традыцыя ахвяраванняў даволі моцная, яна ляжыць на падсвядомым узроўні.

Другі момант — прайшлі трыста дзён з моманту шырокамаштабнага ўварвання. І відавочна тое, што Расія не здольная дасягнуць поспеху.

Зяленскі перад гэтым наведаў Бахмут і ўжо адтуль праз тэрыторыю Польшчы накіраваўся за акіян. Таксама відавочны і сімвалічны момант — першы візіт быў зроблены ў ЗША, да нашага асноўнага на сённяшні дзень стратэгічнага партнёра.

**— Ці падзяляеце вы думку пра тое, што гэта гістарычны візіт, пэўны паваротны момант у гэтай вайне?**

— Візіт Зяленскага ўжо параўналі з візітам Чэрчыля ў ЗША ў 1941 годзе. Але той візіт быў пасля атакі на Пёрл-Харбар, ролі ўдзельнікаў сустрэчы былі трошкі іншымі.

Гэта не першая сустрэча Зяленскага і Байдэна, іншая справа, што абставіны цяпер больш драматычныя. Украінскі прэзідэнт наваг ляцеў у ЗША на самалёце амерыканскіх ваенна-паветраных сілаў.

Цяжка ацаніць любы візіт, як факт, што ён гістарычны. Гістарычнымі могуць быць яго наступствы, вынікі. Казаць жа, што менавіта гэтая сустэча, гэты поціск рук носяць гістарычны характар, досыць складана.

Зрэшты, удакладню. ЗША зрабілі адзін крок да таго, каб гэта быў гістарычны візіт. Яны прынялі рашэнне перадаць Украіне батарэю супрацьракетнага комплекса Patriot. Гэта ўжо трэці этап. Першы быў вясной, калі нам перадалі гаўбіцы калібра 155 мм. Летам былі РСЗА Himars.

І вось цяпер мы спадзяёмся ў найбліжэйшы час атрымаць Patriot. У гэтым плане так, гэта гістарычны візіт.

**— Амерыканская прэса паведамляе пра адмову Мінабароны ЗША даваць Украіне перадавое ўзбраенне, у прыватнасці, танкі M1 Abrams. Таксама гаворка ідзе пра некалькі сцэнароў мірнага плана, якія гатовыя ўхваліць у Вашынгтоне. Адзін з іх прадугледжае пакіданне Крыма ў складзе Расіі. Ці не стала для Кіева нечаканасцю такая пазіцыя амерыканскіх уладаў?**

— Гэта дастаткова прадказальная пазіцыя Вашынгтона, няма ў ёй нічога асаблівa новага. Злучаныя Штаты, зважаючы на іх статус дзяржавы-лідара дэмакратычнага свету, не могуць бразгаць зброяй і весці агрэсіўную рыторыку. Таму нічога дзіўнага ў гэтым няма. Думаю, гэта абсалютна нармальны працэс.

Танкі — гэта адчувальны момант для многіх краін, у тым ліку і для Нямеччыны, і для ЗША. І таму я думаю, гэта адбудзецца, напэўна, у наступным годзе. Але гэта можа адбыцца не так хутка, як бы нам гэтага хацелася.

**— То бок, пытанне паставак танкаў не выглядае безнадзейным?**

— Скажу так: пра Himars і гаўбіцы 155-га калібра таксама шмат казалі, што ўкраінцам спатрэбіцца шмат часу на іх засваенне. Абаронцамі Украіны рухае жаданне як можна хутчэй перамагчы. І не трэба лічыць, што абаронцы Украіны менш здольныя, чым грамадзяне ЗША, Нямеччыны і любой іншай краіны, у якой на эксплуатацыі знаходзіцца гэтая тэхніка.

Таму гэтае тлумачэнне, на мой погляд, непрымальнае. Непрыемна, што ЗША выкарыстоўваюць падобную аргументацыю. Я думаю, што справа тут у іншым.

Думаю, Злучаныя Штаты асцерагаюцца (не баяцца, а менавіта асцерагаюцца) таго, што ў выніку перамогі Украіны Расія развaліцца. І частка яе апынецца пад кантролем Кітая, што даволі хутка ўзмоцніць яго эканамічна. Таму Вашынгтон і займае такую пазіцыю.

**— На фоне сустрэчы ў Вашынгтоне прэзідэнт Францыі Эмануэль Макрон у чарговы раз выказаўся пра неабходнасць гарантый бяспекі для Расіі па выніках вайны. Як вы лічыце, чаму яго ніяк не адпусціць гэтая ідэя?**

— Паміж Францыяй і Расіяй існуюць асаблівыя адносіны, якім ужо больш за два стагоддзі. І Макрон з'яўляецца закладнікам гэтых адносінаў. Калі ён хоча асабіста даваць Расіі гарантыі бяспекі, то ён можа іх аб'яўляць.

Але гэта парадокс: калі прэзідэнт ядзернай дзяржавы Францыя прапануе гарантыі ядзернай дзяржаве Расія, якія выступіла ў ролі агрэсара супраць краіны, якая адмовілася ад ядзернай зброі. Гэта называецца з ног на галаву.

Гэта не ўпрыгожвае Макрона. Гэта паказвае, што ён занадта шмат думае пра ўласную палітычную будучыню, а не пра тое, каб спыніць беспрэцэдэнтную агрэсію, якая працягваецца ва Украіне.

**Сяргей Васілеўскі**
**gazetaby.info**

БЕЛАРУСЬ - РАСЕЯ

# ПУТИН ПРИЛЕТЕЛ К ЛУКАШЕНКО ВПЕРВЫЕ ЗА ТРИ ГОДА. ЗАЧЕМ?

**Президент России Владимир Путин в понедельник 19 декабря прибыл в Минск и провел переговоры с Александром Лукашенко. Ни с кем из зарубежных лидеров Путин не встречается так часто, как с белорусским — особенно во время войны.**

**О чем говорили**

Переговоры Путина и Лукашенко продолжались примерно два с половиной часа. В начале встречи президент России сказал, что говорить будут в основном об экономике, а после нее на пресс-конференции сообщил, что удалось решить ключевой вопрос — цены на энергоносители.

Россия поставляет нефть и газ на «весьма выгодных, преференциальных условиях», не забыл напомнить Путин, объявляя о том, что «чувствительные» параметры «по ценообразованию в сфере энергетики», согласованы. Конкретные цифры ни он, ни Лукашенко не назвал.

Россия и Беларусь будут продолжать практику постоянных военных учений, договорились также заниматься созданием новой военной техники, а еще в следующем году планируется полет белорусского космонавта на МКС, рассказал Путин. Кроме того, он объявил о подготовке белорусских экипажей боевых самолетов «для возможного применения боеприпасов воздушного базирования со специальной боевой частью», не расшифровав этот термин. А Лукашенко заявил, что в Беларуси поставлены на боевое дежурство комплексы С-400 и «Искандер», которые передала Россия.

После переговоров белорусская журналистка задала традиционный вопрос о вероятности поглощения Беларуси Россией. Оба президента ответили отрицательно, при этом Лукашенко заявил, что обсуждение этой темы с подачи Запада якобы провоцирует белорусская оппозиция.

О войне вопросов журналисты не задавали, хотя западные эксперты именно этот вопрос считали одной из главных тем встречи Путина и Лукашенко. В частности, аналитики американского Института изучения войны (ISW) писали на прошлой неделе, что в ходе визита Путин попробует оказать давление на президента Беларуси с целью добиться уступок по интеграции двух стран, а также создать условия для нового наступления на Украину. При этом ISW считает крайне маловероятным то, что Москве все же удастся вовлечь Минск в прямые боевые действия против Украины — только военная помощь в границах Беларуси.

**Как Лукашенко стал частым гостем в России**

Последний раз российский президент приезжал в Беларусь в июне 2019 года на церемонию закрытия Вторых Европейских игр. Путин посетил соревнования по боксу и спортивной гимнастике, встретился с президентом МОК Томасом Бахом, пообщался с российскими спортсменами и провел неформальную встречу с Лукашенко и главой Таджикистана Эмомали Рахмоном.

В ту пору отношения «союзного государства» Москвы и Минска можно было охарактеризовать фразой Лукашенко: «На хрена нужен кому такой союз?»

**«На хрена нам такой союз?» Лукашенко в день выборов высказался об интеграции с Россией**

В канун нового 2020-го года между странами разразился очередной конфликт на почве цен на российскую нефть. 31 декабря Путин и Лукашенко в течение часа обсуждали проблемы по телефону, а на следующий день Россия прекратила поставки нефти в Беларусь.

…В августе 2020 года, за пять дней до президентских выборов, Лукашенко выступил с посланием к парламенту и народу, заявив, что российские наемники планировали «организовать бойню в центре Минска», и пригрозив Москве жестким ответом. Он также пожаловался на «нефтяные разборки» с Москвой, из-за которых бюджет потерял около 700 миллионов долларов.

Все изменилось после президентских выборов, по итогам которых Лукашенко объявил себя победителем. Оппозиция с этим не согласилась, Беларусь охватили массовые акции протеста, по всей стране на улицы вышли сотни тысяч людей. Власти начали жестко подавлять протесты, участников выступлений задерживали, избивали и бросали в тюрьмы.

В то время как США, Евросоюз и другие западные страны отказались признать победу Лукашенко на выборах, Путин поздравил его одним из первых и вскоре заявил, что готов направить российских силовиков в Беларусь для подавления протестов.

14 сентября 2020 года Лукашенко прилетел в Сочи, где встретился с Путиным тет-а-тет. По итогам переговоров стало известно, что Россия предоставит Беларуси кредит в 1,5 млрд долларов.

С тех пор Лукашенко стал в России частым гостем. В 2021 году он приезжал в Россию пять раз — 22 февраля, 22 апреля, 28 мая, 13 июля и 29 декабря.

В 2022 году его визиты в Россию стали чаще. Лукашенко приезжал 18 февраля, 11 марта, 12 апреля, 16 мая, 23 мая, 25 июня и 26 сентября — всего семь раз…

Большинство экспертов не склонны считать, что нынешний визит российского президента в Минск имеет цель оказать на Лукашенко давление по вопросам геополитического масштаба — для этого у Путина и так достаточно механизмов.

*(Скарочана)*

**BBC News Русская служба**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы. E-mail: alex81852@gmail.com
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.12.2022 у 19.18**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.